Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **15 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

**Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

**№ 15 (40)** | **Вільня, 22-га чэрвеня 1934 г.** | **Год 2-гі.**

## Зрабема высілак.

Нярaз парушалася справа сталага беларускага тэатру ў Вільні. Цяпер, у часы духовага расьцярушаньня сярод беларускае інтэлігэнцыі, тэатр быў-бы, бязумоўна, важным культурным лучнікам. І цяпер асабліва ёсьць найбольш адпаведныя варункі для ўзьніку сталага тэатру. Ёсьць артыстычныя сілы, якія пры ўмелым пакіраваньні справы можна было-б згуртаваць у сталую трупу. Колькі асоб, паканчаўшых ці быўшых у беларускіх гімназіях, працуе цяпер на чужых сцэнічных падмостках?.:

Вярнуўшыся з Саловак Аляхновіч, які мае фаховую падгатоўку, мог-бы арганізаваць гэтых сваіх і „чужых" артыстаў і паставіць урэшце тэатральную справу на моцны і цьвёрды грунт. Справа рэпэртуару ў нас стаіць таксама здавальняюча. Тэатр-жа выклікаў-бы на сьвет цэлы рад новых літэратурных працаўнікоў, якія-б маглі і прамаўляць да публікі і чэрпаць з тэатру сокі для сваёй творчасьці. Брак выдавецтваў зьяўляецца вялікай перашкодай для разьвіцьця беларускае літэратуры ў Зах. Беларусі наагул. Скрытых мастацкіх магчымасьцяў і вартасьцяў у нас шмат. І вось тэатр якраз запоўніў-бы ў вялікай меры гэтыя недахопы.

Цяпер разважым рэальныя магчымасьці да існаваньня Сталага Беларускага Тэатру. Наш тэатр у Вільні дасяньня меў пераважна характэр школьнага тэатру, школьнага ў тым сэньсе, што быў зьвязаны з вучнёўскай моладзьдзю. Грамадзянства, цікавячыся наагул гэтым тэатрам, прызвычаілася глядзець на яго, як на нешта іменна школьнае. Паза пэўнымі выняткамі (студэнскія выступленьні, тэатр за часоў гр. М. Красінскага і Аляхновіча ў 1922 — 23 г.г.), тэатр гэты меў нізкі мастацкі ровень. Прадстаўленьні рабіліся, каб выцісьнуць перадусім з публікі грошы на тыя ці іншыя мэты. Зразумела, што пры такім трактаваньні тэатру паступова мусіла абніжацца і беларуская сцэна і публіка. Цяпер, калі адбываюцца беларускія спэктаклі ў Вільні, часта-густа можна пачуць словы: „эт, глупства". Публіка або ня йдзе зусім на спэктаклі, або йдзе на скокі. Ясная рэч, што з гэтым пара ўжо скончыць. Гэта ня значыць, што школьны тэатр у цесным значэньні гэтага слова мае памерці. Хай наша моладзь і далей ставіць п'есы, хай разьвіваецца. Але беларускі тэатр, як такі, мусіць ужо вылезьці з пялюшак і парваць з дагэтуляшняй практыкай. Тэатр мусіць духова карміць публіку, а не глядзець на яе, як на дойную карову, з якой толькі выключна можна браць грошы.

Калі тэатр падымецца на высокі мастацкі ўзровень, ён зацікавіць усю беларускую публіку Вільні і публіку іншых нацыянальнасьцяў.

Пастаўма толькі на належную вышыню тэатр — публіка будзе! Прадстаўленьні можна ставіць раз у тыдзень. Салю можна здабыць (можа нават бясплатна), паразумеўшыся з тымі ці іншымі культурнымі ўстановамі або арганізацыямі. І што нам больш трэба, каб паўстаў Сталы Беларускі Тэатр? Яшчэ трэба толькі высілак і добрая воля.

Летам Сталы Беларускі Тэатр мог-бы аб'яжджаць усю Зах. Беларусь і адчыняць свой як-бы „летні сэзон".

Варункі ёсьць. Калі ня будзе зроблены высілак, яшчэ будзе адзін доказ таго, як далёка беларуская інтэлігэнцыя зайшла ў сваёй ідэолёгічнай засьценкавасьці і крамаршчыне.

## Пасьля забойства сьв. пам. мін. Б. Перацкага.

З прычыны забойства сьв. пам. мін. Б. Перацкага па ўсей Польшчы адбываліся набажэнствы за спакой душы памершага міністра і протэстацыйныя маніфэстацыі. У Вільні некалькі дзесяткаў саюзаў і організацыяў выдалі адозву, выражаючы жаль з прычыны сьмерці заслужанага дзеяча Польшчы. Адозва заклікае насельніцтва Вільні да пратэстацыйнай маніфэстацыі.

18. 6. г. г. на знак жалобы а гадз. 13-ай быламінута маўчаньня. Увесь гарадзкі рух быў на гэты час спынены. Папалудні адбылася вялікая жалобная маніфэстацыя на Лукішскім пляцу, дзе сабраліся са штандарамі ў жалобе організацыі і вялікая маса не'організованых жыхароў Вільні. У часе маніфэстацыі гаварылі прамовы, пасьля якіх наступіла мінута маўчаньня, а потым аркестра і хор выканалі жалобныя творы. Усе сабраўшыяся на Лукішскім пляцу стварылі вялікі паход, які ськіваваўся да віленскага ваяводзтва і інспэктарату арміі, дзе дэлегацыі паасобных організацыяў выразілі пачуцьцё жалю з прычыны забойства.

19. 6. у 10 гадзін адбылася ў касьцеле сьв. Яна ў Вільні жалобнае набажэнства за спакой душы мін. Б. Перацкага. Касьцёл быў перапоўнены. На набажэнстве былі прадстаўнікі організацыяў са штандарамі ў жалобе, а таксама прадстаўнікі вайсковых, адміністрацыйных і гарадзкіх уладаў. У часе паніхіды ўсе ўстановы і магазыны былі зачынены.

— —

19. 6. а 1-ай гадз. у начы прыбыў у Новы Сонч спэцыяльны жалобны цягнік з целам мін. Б. Перацкага. На ўсіх падарожных станцыях выходзілі дэлегацыі вайсковых і грамадзкіх установ са штандарамі, каб аддаць апошні доўг трагічна памёршаму міністру.

На станцыі ў Новым Сончу жалобны цягнік спаткалі прадстаўнікі гарадзкіх і адміністрацыйных уладаў і ганаровая варта. Раніцай цела памёршага міністра было перавезена ў касьцёл, дзе ў 9 гадз. адбылося жалобнае набажэнства, на якім быў прысутны таксама прадстаўнік п. Прэзыдэнта Рэспублікі і прадстаўнікі ўраду.

Пасьля набажэнства труна з целам міністра П. Перацкага была перанесена на мясцовыя могілкі і пахавана з аддаьнем вайсковай пашаны.

— —

Сьв. пам. дыпл. плк. Браніслаў Перацкі, міністар унутраных спраў, адзін з найбольш заслужаных дзеячоў Польшчы, радзіўся ў 1894 г. Падчас сваіх студыяў на філёзофскім факультэце Унівэрсытэту Ягайлы ў Кракаве, браў чынны ўдзел у незалежніцкіх працах, адыгрываючы паважную ролю спачатку ў Саюзе Чыннай Барацьбы, пасьля ў Саюзе Стральцоў, а ў пачатку сусьветнай вайны ўступіў у польскія легіоны.

Пасьля сканчэньня вайны, сьв. пам. Б. Перацкі застаўся ў радах чыннай арміі. Канчае Вышэйшую Вайсковую Школу і атрымоўвае дыплём афіцэра Галоўнага Штабу.

У 1928 г. быў выбраны паслом у Сойм і поўніў функцыі віцэ-старшыні парлямэнтарнага клюбу Беспартыйнага Блёку і старшыні вайсковае камісіі.

Пасьля памёршы вяртаецца ў армію на становішча 2-га заступніка Галоўнага Штабу. У хуткім часе пакідае ізноў армію і назначаецца віцэ-міністрам унутраных спраў.

В 1930 г. сьв. пам. Б. Перацкі назначаецца міністрам бяз тэкі ў габінэце В. Слаўка. Становішча гэта абыймае таксама і ў габінэце А. Прыстара. Праз некалькі месяцаў назначаецца міністрам унутраных спраў, якое становішча займаў да дня сваёй сьмерці.

## Новы загад п. Прэзыдэнта Польскай Рэспублікі.

Дня 18. чэрвеня 1934 г. у „Dz. Ust." № 50 апублікаваны загад п. Прэзыдэнта Польскае Рэспублікі ад 17-га г. м. Паводле гэтага загаду, тыя асобы, якія пагражаюць публічнай бясьпечнасьці, згодзе і парадку, могуць быць ізаляваны ў спэцыяльных пунктах.

Па прапанове адпаведнай улады, судзьдзя сьледчы выдае загад аб затрыманьні ў прадугледжаных пунктах дадзеную асобу з тэрмінам да трох месяцаў, прычым тэрмін гэты можа быць прадоўжаны.

Заскардзіць такую пастанову сьледчага судзьдзі ня можна.

## Льготы ў справе даходнага падатку.

Міністэрства скарбу выдала вельмі важны цыркуляр L.D.V.12554 (2-34), якім разьясьняецца пытаньне аб даваньні падатковых льготаў нават і ў тых выпадках, калі платнік ня просіць даць яму гэткае льготы. Цыркулярам гэтым Міністэрства Скарбу разьясьняе, што:

Паводле сэнсу арт. 52 (у канцы) закону аб дзяржаўным даходным падатку, платнік мае права паказаць усе акалічнасьці, якія аб варункоўваюць паніжэньне падатковае стаўкі паводле арт. 27 закону. Улады, якія накладаюць падатак, абавязаны дакладна цатарноўваць, пры вымерваньні даходнага падатку, правілы закону і ў тым выпадку, калі яны ідуць на карысьць платніка.

Пры гэткім палажэньні, у выпадку, калі платнік падасьць паказаньне аб даходзе, дык улада, каторая вымервае падатак, абавязана прызнаць платніку льготу паводле арт. 27 закону аб даходным падатку, калі яна мае дадзеныя, абаварункоўваючыя законнае прызнаньне льготы. Калі ўлада гэтых дадзеных ня мае, дык яна не абавязаньна зьбіраць іх па сваёй ініцыятыве. Калі платнік ня дасьць паказаньня, а ўлада сама ня мае дадзеных, якія служылі-б падставаю для льготы, дык яна павінна даць платніку льготу паводле арт 27 закону, калі платнік, у пастунаньні першае або другое інстанцыі, даставіў доказы, якія могуць служыць падставаю для льготы.

У пастунаньні другое інстанцыі, платнік мае права (нават, калі падаў паказаньне) ссылацца на недахопы юрыдычнага характару, і гэткім якраз недахопам зьяўляецца няпрызнаньне льготы на падставе самога закону.

Прызнаньне ўладаю льготы, на падставе зробленага ёю па ўласнай ініцыятыве на гэты прадмет даходжаньня, — зьяўлялася-б няправільным.

Арт. 27 мае на ўвазе паніжэньне падатку пры даходзе, які не перавышае 7200 злотых, у залежнасьці ад сямейнага стану платніка.

## Як выглядае савецкая запраўднасьць?

Маскоўскі корэспондэнт варшаўскае „Gazety Polskiej" п. Отмар часта падае вельмі цікавыя дадзеныя з бальшавіцкае запраўднасьці. У № 160 гэтае-ж газэты за 11 чэрвеня сёл. году знаходзім абшырны артыкул п. Отмара пад загалоўкам „Zagadnienie Pracy", які вельмі выразна ілюструе жыцьцё працоўных людзей пад бальшавіцкім рэжымам.

Польскі публіцыст кажа, што найпаважнейшым контр-аргумэнтам бальшавіцкае прапаганды перад сьвядомымі ў істоце рэчаў

загранічнымі обсэрватарамі зьяўляецца цьверджаньне, быццам матар'яльныя недахопы савецкага жыцьця ў значнай меры ўзнагароджваюцца там чалавеку працы добрым маральным самапачуцьцём.

На гэта п. Отмар заяўляе, што савецкі работнік у сваёй вялізарнай большасьці зусім ня чуецца сябрам „урадуючае клясы", бо *адзіную* „ўрадуючую клясу" складае ў бальшавікоў *бюракратыя* (вураднізтва) і перш за ўсё тыя галіны яе, з якімі шэры грамадзянін стыкаецца колькі разоў на дзень, г. знач. адміністрацыйны і даставова-распадзельны апарат.

Зусім праўдзіва п. Отмар кажа, што г. зван. „савецкае дэмакратыі", якою захапляўся францускі міністар Эрыо, ніколі ў СССР ня было, а цяпер, дык няма нават і тае, якая праяўлялася ў пачатковым охлёкратычна-анархізацыйным пэрыядзе расейскае рэвалюцыі. Астаткі „савецкае дэмакратыі" можна хіба заўважыць яшчэ цяпер у г. зван. *прадуктэрскіх конфэрэнцыях* (производственныя совещания), на якіх работнікі звычайна *„аднагалосна зацьвярджаюць"* загаданы „з гары" плян, у найлепшым выпадку ўносячы некалькі рацыяналізатарскіх прапазыцыяў, або „з энтузыязмам прымаюць" г. зв. „встречный план" — прасьцей кажучы, дабравольнае павялічэньне праграмы працы.

Другое, што яшчэ можна лічыць *астаткам* „савецкае дэмакратыі" — гэта выбары ў мясцовыя рады (советы), якія звычайна робяцца зусім нерэгулярна і, як кажа п. Отмар, зусім „пафашыстоўску". Найбліжэйшыя чародныя выбары маюць адбыцца ў надыходзячую восень, што, паводле савецкае констытуцыі, азначае больш як двухгадовае і нічым фармальна неапраўданае спазьненьне. Але гэтая справа належыць сягоньня ў бальшавіцкай краіне да „тэорыі", якая мала каго і цікавіць.

Але-ж і жыцьцёвая *практыка* як найменш выпрабляе ў савецкім работніку пачуцьцё прыналежнасьці да „ўрадуючае клясы". Бо *фактычна* работнік там зданы на ласку ці няласку фабрычнай адміністрацыі ў часе працы, міліцыянэра, калі знаходзіцца на вуліцы, г. зв. „камэнданта" ў бараку або ў кватэры, нарэшце — прадаўца калі што купляе, а таксама кандуктара ў цягніку або ў трамваі.

У параўнаньні з „прыгнечанымі пролетарыямі Захаду", — савецкі работнік мае, як „здабычу" — семгадзінны дзень працы... плюс ня менш як чатыры гадзіны стаяньня ў розных „хвастох", якія, ня гледзячы на заміраньне сыстэмы падзелу прадуктаў, зьмяншаюцца з нячуванаю маруднасьцю. Апрача гэтага, існуе ў бальшавіцкай дзяржаве, як ведама, нячувана-*лібэральнае* соцыяльнае законадаўства, або ахова працы. Як-жа законадаўства гэтае выпаўняецца?

Вось пара прыкладаў з савецкіх газэтаў:

„За Индустриализацию" піша: „публікуем матар'ялы, якія датычаць выняткова бяздушнага, бюракратычнага зьдзеку над работнікамі з боку гаспадарчых кіраўнікоў і прафсаюзных дзеячоў каменнавуглявых шахтаў у *г. Хрустальское* (Данецкі басэйн). Хамская самаволя, бесцэрамоннае нарушэньне элемэнтарных асноваў законадаўства працы, абураючае ігнараваньне работніцкіх патрэбаў — вось што зьяўляецца сыстэмаю кіраўнікоў шахтаў".

Як аказваецца, работнікаў сыстэматычна *прымушалі* да працы ў сьвяточныя (пабальшавіцку — *дни отдыха*) дні, якія там прыпадаюць на кожны шосты дзень, пры чым ім плацілі за гэта звычайныя стаўкі, замест прадбачаных законам падвойных ставак. Тых, хто пратэставаў, звальнялі з працы як „злосных прагульшчыкаў". Усё гэта рабілася з мэтаю выпаўненьня дзеннага пляну дабываньня вугля, пры чым „офіцыяльна" праца вялася 24 дні ў месяц, а фактычна 28 дзён. Ня гледзячы на вялікі лік работніцкіх жалабаў на скасаваньне дзён адпачынку і ашуканства пры абліч ваньні надлічбовых гадзін, партыйная і профсаюзная арганізацыя ня толькі не зарэагавала на гэта, але наадварот—стала на бок управы шахтаў.

А „Комсомольская Правда" паведамляе з Смаленску, што там у кравецкай фабрыцы працуе 80 шаснаццацьгадовых падросткаў—няраз да 16 гадзін у дзень. Замест месячнага одпуску дастаюць два тыдні плюс грашовую компэнсацыю за адзін тыдзень. „Падобных фактаў нарушэньня закону аб працы няпоўналетніх,—чытаем тут,—ёсьць вельмі шмат. Хлопцы працуюць нароўні з дарослымі ня менш як 7 гадзін у дзень, заместа прадбачаных для іх шасьцёх гадзін. Вельмі шмат хто з іх працуе ў начных зьменах, а плацяць ім, як за дзенную працу. Жалабы на сыстэматычнае ашукваньне пры выплатах не разглядаюцца. За лішнія гадзіны наагул ня плацяць. Фабрычная камсамольская арганізацыя ведае пра ўсё і маўчыць, фактычна бароначы адміністрацыйнае бяспраўе. Гэта робіцца ў вялікім цэнтры, на вачох усіх грамадзкіх арганізацыяў".

З другога боку,—калі-б гэтыя арганізацыі зарэагавалі, дык іх абвінавацілі-б хіба ў нарушэньні *„принципа единоначалия"*.

Безрабоцьця, у нашым разуменьні, як піша п. Отмар, у бальшавікоў яшчэ няма, але ўжо заўважваецца неабходнасьць зьмены прафэсіі, бо масавыя рэдукцыі канцэлярскае паўінтэлігэнцыі пакінуць шмат яе бяз працы, таму што рэдка хто з гэтых людзей зможа знайсьці работу на вёсцы, у колектывах або „совхозах".

Нарэшце, з чалавекам, згубіўшым працу, паступаюць бальшавікі вельмі проста. На г. зв. „біржы працы" яму прапануюць быць дравасекам на паўночным Урале, скажам, за 80 рублёў у месяц. Калі чалавек гэты кажа, што: 1) ён не дравасек па прафэсіі, 2) мае ў Маскве сям'ю і дзеці ў школах,— дык яго ня змушаюць да нічога. Але біржа працы вычырквае яго з сваіх сьпіскаў і кандыдат на працу *„перастае існаваць"*—разумеецца толькі ў адміністрацыйным сэнсе.

Далей гэткі безработны паступова губляе права на хлебныя картачкі, часам і на кватэру, нарэшце атрымлівае загад высяліцца з сталіцы, таму што, пасьля ўвядзеньня пашпартовае сыстэмы, права прабываньня ў вялікіх гарадох мае толькі „працоўны элемэнт".

І ў рэзультаце з аднаго толькі застаецца цешыцца бальшавіцкаму пралетарыю: яго павадыры дзяўбуць яму спрытна, што ён можа быць зусім спакойным, бо на яго галіце *ніхто* не ўзбагачваецца — ніякая адзінка, ніякая грамадзкая кляса.

Але невядома, як доўга гэткая прапаганда можа трымаць у пасыўнасьці згалелыя народныя масы бальшавіцкае дзяржавы?

# Гаспадарчы аддзел.

## Сушка сена.

Аб касьбе мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары гэтае часопісі, а цяпер коратка абгаворым справу сушэньня сена.

З усіх траваў найбольш клопату дае з сушэньнем канюшына і наогул усе матыльковыя, як віка, люцэрна, сэрадэля і інш. Труднасьць сушэньня гэтых расьлінаў палягае ў тым, што лісточкі іх, якія ёсьць найпажыўнейшымі, высыхаюць значна раней ад сьцеблаў і потым, пры варушэньні, шмат іх крышыцца і застаецца на полі. З гэтай прычыны канюшыну карысна сушыць наступным спосабам: скошаныя і правяўшыя расьліны трэба скласьці ў маленькія кучкі; кучкі павінны быць стажкаватыя, а расьліны ў іх не павінны быць сьцісьненыя; каб такія кучкі не раскідаліся, трэба вяршкі іх абвязваць некалькімі калівамі канюшнаны. Перад звозкаю копкі трэба перавярнуць дагары і пакінуць якісь-ці час на сонцы, каб спод іх добра высах. Яшчэ лепей сушыць канюшыну і наогул усе матыльковыя расьліны на астрожках і козлах (пірамідах).

Сушэньне сена балотнага і мурожнага ня ёсьць так цяжкай справай, як сушэньне канюшыны, але і тут вялікія шкоды прыносяць дажджы, асабліва калі яны падаюць на прасохшае сена. Найлепшы спосаб сушэньня травы з сенажацяў ёсьць наступны:

Як трава правяне (прыблізна пасьля 10 гадзін па скашэньні), складаюць яе ў малыя копкі. Сена ў такіх копках трошкі сагрэецца, дзякуючы таму, што разаўецца вялікая колькасьць спэцыяльных бактэрыяў. Павышэньня тэмпэратуры патрэбна, калі хочам, каб сена мела добры арамат. На другі дзень копкі раскідаюцца, сена сушыцца і потым вечарам скла-

# Настулька.

*(Раcказ)*

(Гл. № 14 „Р. Кр.").

Так разважала некалькі мінут Настулька і нават рашылася адразу сказаць гэтым сватом зусім спакойна, як добрым людзям, што яны мусі заблудзілі, мусі ня туды заехалі, бо замуж яна зусім ісьці яшчэ ня зьбіраецца.

З гэткаю думкай яна падыйшла да маці, якая раптам кінулася мясьці хату, сьпяшаючыся, быццам у полі перад дажджом.

— Мама! трэба адразу адаслаць гэтых сватоў, каб яны нават і галавы нам ня дурылі,—загаварыла Настулька да маці.

Маці нічога не пасьпела адказаць Настульцы, бо сваты ўжо ўваходзілі ў хату, у якой усё замітусілася, быццам на пажары: замяталі сьмяцьцё з падлогі, выцiралі лавы і ў адзін міг накрылі стол белым настольнікам.

Дый што-ж было казаць маці, калі аб сватох гэтых яна ведала загадзя і рада была, што сватаецца да яе дачкі хлопец ня бедны, а пры гэтым крыху нават і сваяк.

Тымчасам цераз парог пераступаў сват, а за ім сам „пан малады". Зачыніўшы за сабою дзьверы, яны па чарзе прывіталі дом „пані маладое" адным кароткім словам, пазычаным таксама ў маскалёў.

— *Здрасьце!*

— *Здрасьце!* — пачулася іхнае прывітаньне, што павінна было азначаць маскоўскае слова: *здравствуйте.*

— *Здрасьце! Здрасьце!* — пачалі вітаць іх у сваю чаргу гаспадары хаты, падаючы ім руку.

— Сядайце ў нашай хаце, — запрасіла сватоў роднаю моваю Настульчына маці.

— Ня ведаем, ці варта й сядаць! — зажартаваў быўшы ўжо крыху пад чаркаю сват, — каб часам ня выйшла шыла на мыла, як той казаў. Конь нешта праз усю дарогу моцна пырхаў.

-- Можа ўдушлівы, дык і пырхаў, — весела заўважыла Настулька.

— О, не! — перабіў гутарку пан малады, — конь, як агонь, а маем і яшчэ трое коняў; брычка толькі як на-ліха папсована, а то добраю параю прыляцелі-б.

Тутака сват выйшаў, пакапаўся нешта ў сваім возе і прынёс у хату паўтузіна бутэлек гарэлкі, паставіўшы іх на стол. Гэткі ўжо старасьвецкі звычай у нас, беларусаў, што малады, сватаючыся прывозіць з сабою ўласную гарэлку, за якую пасьля бацькі маладое павінны заплаціць, калі справа раскідаецца і да вясельля не дайдзе.

Падчас запоінаў, сват, як з мяшка, сыпаў жартамі, якія павялічваліся ў яго ад кожнае выпітае чаркі. Торгу аб пасагу ніякага ня было, бо сват, хвалячы гаспадарку маладога, заявіў Настульцы проста:

— Ня бойцеся, паненачка, ваш лёс благім ня будзе; працаваць каму знойдзецца, а гаспадыняю быць хіба што патрапіце.

Глянуўшы на кравецкую машыну, што стаяла на лаве, ён разважаў далей:

— Вось, мусі крыху і краўцуеце, дык што вам будзе значыць завясьці і замужам гэткую машыну ды шыць сабе, калі захочаце. А надумаецеся выехаць куды, дык і да Амэрыкі хопіць на дарогу.

— Што, паехаў-бы ў Амэрыку, Міхась?— зьвярнуўся ён да маладога

Расчырванеўшыся ад гарэлкі, малады хацеў відочна свой розум паказаць і да словаў сватавых дадаў свае два грошы:

— Калі добра справу вясьці, *то зачем* мне нейкая Амэрыка. У Амэрыку паехаць — гэта-ж не на кірмаш да мястэчка. Мне, дзякуй Богу, і *здесь* Амэрыка.

— Амэрыка, то не Амэрыка, — разважаў далей сват, — у Амэрыцы чалавек бялей ды чысьцей выглядае. Гляньце, вун, хто толькі стуль ня вернецца, дык — чысты паніч. Адзежы гэткае ніводзін чыноўнік тут ня мае. А пра грошы дык гаварыць няма чаго. Даляраў хоць у сявенку складай. Але дадому кожнага цягне. У сваёй мясьціне — ня тое, што ў чужым краі. А калі ў каго добрае палажэньне, гаспадарка, значыцца, як мур, дык і праўда, што непатрэбна яна нам тая Амэрыка.

— *Лучшей жизни не надо, как в Россіи была,* — уставіў тут Настульчын бацька.

Маці яе пры гэтым глыбока ўздыхнула. Малады маўчаў.

II.

Пакінем старых за сталом з іх размовамі недагаворкамі, з расхвальваньнем сватам маладога, а найбольш яго гаспадаркі, якое ведама-ж здалёку нікому ня відаць было.

Хадзем за *маладымі* на вуліцу, куды яны вышлі вось знаёміцца бліжэй паміж сабою, пагаварыць бяз гэтых няпрыемных засnавальнікаў іхнага новага жыцьця: бацькоў Настулькі, свата ды дзьвёх пар сваякоў, пакліканых старымі на чарку.

На двары пачынаўся чэрвень. Зьмяркала. Кароценькая, але крывая вулічка апусьцела і ціха зьбіралася спаць, наслухаўшыся гоману дзяцей і гутарак старых жанчын на прызьбах у доўгі, ня то летні, ня то яшчэ вясьняны дзень.

— *А как у Вас тут прыятна, прэлісьць,* — загаварыў Міхась першым.

— Давайце гаварыць будзем так, як усе тут гавораць — пабеларуску, — перабіла яго Настулька, — вам пэўна нават і лягчэй гэтак гаварыць будзе, а то вы гэтулькі маўчалі ў хаце.

— *Молчаніе — знак согласія,* — адказаў на гэта Міхась.

— На што гэтае ваша *согласіе?* На расейскую мову? — спыталася Настулька.

— Вы чагось злуеце на мяне? — пытаньнем адказаў Міхась.

— За што? Хіба за тое, што вам так рана жаніцца хочацца? Вы-ж яшчэ малады зусім.

(Працяг будзе).

*Краўцоў Макар.*

даецца ў большыя копкі. На другі дзень сена ізноў раскідаецца, і сушыцца, а пасьля складаецца ў вялікія копы, дзе яно прарабляе дадатковую фэрмэнтацыю, пасьля чаго праз дзень сена бывае звычайна цалком гатовае.

Пасьля збору мурожнага сена ці канюшыны карысна глебу праветрыць. На полі гэта можа быць выканана бораною, а на сенажацях лепей скарыфікатарам; калі-ж на астатніх ёсьць мох, то пушчаецца яшчэ сенажатная барана.

*З. К.*

## Вынішчайце мшыц.

Мшыцы ёсьць дробныя, але пражорлівыя і пладлівыя казулькі. Гатункаў мшыц шмат. Шкодзяць яны, як пладовым дрэвам, гэтак і палявым расьлінам (бобу, гароху і інш).

З пасярод мшыцаў, зьяўляючыхся на пладовых дрэвах, асаблівае ўвагі заслугоўвае ваўністая мшыца (кароўка) Пашкоджаныя дрэвы гэтаю казулькаю ракавацеюць, а маладыя часта цалком гінуць. Барацьба з гэтым шкоднікам вельмі трудная звычайныя сродкі на яго ня дзеюць. Нішчыць гэты гатунак мшыцы найлепей 20% рошчынам карболінэуму або дэнатураваным сьпіртам.

Для нішчэньня іншых гатункаў мшыцаў добрымі сродкамі ёсьць адвар тытуню, адвар з лісьцяў бэзу, разведзены зялёным мылам і нарэшце мыдліны з лугам, застаўшыяся пасьля мыцьця бялізны.

*М.*

## Які будзе ўраджай?

Здавалася-б, што нязвычайна цёплае прадвесьне бягучага году перасуне на 2-3 тыдні звычайныя тэрміны ў прыродзе і земляробскіх гаспадарствах, даючы падставу дапушчаць, што жніва ў гэтым годзе пачнецца значна раней. Між тым, у сапраўднасьці аказалась інакш. Халады ў траўні і чэрвені рэзка затрымалі разьвіцьцё збажовых расьлін, і жніва пачнецца як заўсёды. Які будзе ўраджай збожжа—пакуль што цяжка сказаць. Ведама толькі тое, што салома ўсюды слабая. Слабы таксама ўраджай сена, што, бязумоўна, адаб'ецца на яго рынычных цэнах. Што да бульбы, — то ёй моцна пашкодзілі замаразкі, якія мелі месца ў канцы траўня.

## Крыху пра індыкі.

Вельмі часта чуем мы нараканьні, што індыкі трудна гадаваць і што шмат іх гіне малымі. На вёсцы вельмі рэдка можна спаткаць гэткую адважную гаспадыню, якая-б гадавала індыкі. Вось-жа гадаваць індыкі зусім ня так цяжка, асабліва там, дзе ёсьць сад, ці наагул пасьбішча. Вельмі важным зьяўляецца тое, каб яйкі былі ад здаровых сільных 2-3 гадовых індычак дзеля таго, што толькі тады можна спадзявацца сільнага здаровага і адпорнага пакаленьня.

Найлепшаю маткаю зьяўляецца індычка, а ніколі курыца. Індычка добра бароніць свае дзеці і доўга іх водзіць, тады як курыца вельмі часта зарана кідае сваіх малых.

Пад індычку можна палажыць 20-22 яйкі. Праз чатыры тыдні, як малыя пачнуць выходзіць з яек, трэба іх забіраць ад індычкі—дзеля таго, што яны лёгка могуць задушыцца сярод яек—палажыць у кошык ці пушку, выламаныя пухам ці пер'ем і паставіць у цёплым месцы. У працягу 36 гадзін не даваць ім нічога есьці. Як выйдуць ужо ўсе малыя з яек, тады падлажыць іх пад індычку. Па 36-ці гадзінах трэба даць малым есьці. Першы раз даецца сэрак, які робіцца так: разьбіваецца яйко, дадаецца крыху малака, вымешваецца і крыху падсмажываецца. Так карміць дзён 5 6. Праз тыдзень даецца ўжо крываўнік з кіслым малаком. Паступова трэба прывучаць да зярна, даючы спачатку пераважна кашу ячменную, зярно пшаніцы, а піць кіслае і салодкае малако. Калі ўжо малыя індычкі маюць каралі, дык можна даваць ім бульбу з пшанічнымі ці ячменнымі вотрубамі дадаючы крапіву і зялёную цыбулю. Некаторыя гаспадыні даюць горкі перац, а ногі мочаць сьпіртам—гэта памагае мала, але й няшкодзіць. Уначы індыкі ня можна трымаць з курамі дзеля таго, што яны ня зносяць духаты. Гэта ім вельмі шкодзіць. Найлепш каб індыкі начавалі на дварэ, але ў месцы забяспечаным ад шчураў і злодзеяў.

Як мы ўжо казалі, індыкі мусяць мець выган, дзе маглі-б скубаць траву, зьбіраць рабакі і шукаць сабе ўсялякія прысмакі, у чым яны вельмі зарадныя, дзеля чаго гадаваць індыкі аплаціцца толькі там, дзе блізка ёсьць выган ці сад. Познай, восеньню можна пачаць індыкі выкармляць. Не абавязкава іх зачыняць, трэба толькі аддзяліць ад рэшты, якія на выкарм не прызначаны. На пачатку адкармляць бульбаю з атрубамі, гэта індыкі вельмі любяць. Пасьля даваць пшаніцу і кукурузу. У другім пэрыядзе выкармляньня рабіць цеста з пшанічнай мукі, або ячменнай, дадаючы малака столькі, каб ня было клейкае, а сыпкае. Так кормляныя індыкі (каля Каляд) маюць 10-12 кілёгр. а індычкі 6-7 кілёгр. жывое вагі, дзеля чаго можна іх у гэтым часе добра прадаць.

Найлепшымі лічацца індыкі карычневыя „мамуты", як найбольшыя і найсільнейшыя; пасьля іх ідуць чорныя францускія, як мясістыя і вельмі смачныя, пасьля белыя, далікатныя, мала адпорныя слаба растуць і мяся іх горшае.

*„П-ца".*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## У Вільні.

— *Агульны Сход ТБШ не адбыўся.* 17-га гэтага чэрвеня меў адбыцца ў памешканьні Беларускага Коопэрацыйнага Банку ў Вільні агульны сход Таварыства Беларускае Школы, аднак большасьць провінцыяльных дэлегатаў была затрымана паліцыяй у памешканьні Банку або на вакзале і дзеля гэтага сход не сабраўся.

Як мы даведаліся ад асобаў, блізкіх да Галоўнае Управы ТБШ, некаторыя провінцыяльныя дэлегаты зьбіраліся ў Вільню аж па некалькі чалавек ад павету, у той час, як статут Таварыства прадбачыць толькі двух дэлегатаў на агульны сход ад кожнае павятовае арганізацыі Таварыства.

Ці ня кіравала гэтымі дэлегатамі спрытная рука кампартыі?

— У сераду 20-га чэрвеня г. г. скончыліся матуральныя эгзамены ў Беларускай Філіі Дзяржаўнай Гімназіі імя Ю. Славацкага ў Вільні. Дапушчана да эгзаменаў было 24 вучняў і 2 экстэрнаў. Здалі эгзамен наступныя вучні: Быхавец Аркадзі, Гаўрыловіч Кіра, Дзімітровіч Аляксандра, Кабак Антон, Какарэка Павал, Каліцкі Язэп, Касяк Кастусь, Каткавічанка Анеля, Кепель Марыя, Коўш Сьвятаслаў, Крымянка Саламэя, Ламека Сяргей, Міхалевіч Галіна, Млёнак Флёрэнціна, Падабед Раіса, Падагель Уладзімір, Прахаровіч Ніна, Пятроўскі Канстанцін, Сымановіч Антон, Урбановіч Мікалай, Фёдарава Вольга, Шавель Уладзімір, Шведава Галіна.

З экстэрнаў здала Грышкевічова Ксеня.

У пятніцу адбудзецца ўрачыстая раздача матуральных пасьведчаньняў.

— У нядзелю 17 чэрвеня г. г. у памешканьні Саюзу Студэнтаў Літоўцаў адбылася вечарына, зладжаная Беларускім Студэнскім Саюзам у Вільні. Людзей сабралося не шмат ды, каб прышло больш, ня было-б дзе іх зьмясьціць, бо памешканьне, як для вечарыны, зацеснае. Спачатку згулялі жарт Я. Хвораста пад загалоўкам: „На паэтыцкай вышыні". Гэты жарт ужо гулялі летась у Беларускай Гімназіі і трэба сказаць, гулялі лепш, чымся сёлета. Ці то цесная сцэна, ці то няпэўнасьць у гульні некаторых артыстаў, але ў некаторых месцах гульні адчувалася аднатоннасьць. Як заўсёды добра згуляла сваю ролю грам. Татарынавічанка. На заканчэньне беларускі хор пад кіраўніцтвам гр. Шырмы прапяяў некалькі беларускіх песьняў. Нажаль хор пяя вельмі мала, быццам з тае прычыны, што частка хорыстаў ня прышла. А шкада—бо-ж пяяньне беларускае грамадзянства заўсёды ахвотна слухае.

*Глядзельнік.*

## На правінцыі.

— Вёска Кабылкі, Палачанскае гм., Маладэчанскага пав.— Ня надта вясёлае жыцьцё ў нашых вёсках. Усюду і ўва-ўсім адчуваецца крызыс ня толькі матар'яльны але і духовы. Узяць хоць-бы для прыкладу нашу моладзь. Што яна вырабляе—аж жах бярэ.

Вось-жа на вечарыне 9-га чэрвеня г. г. Іван Мясьнік фінскім нажом забіў на сьмерць Васіля Рыдзевіча. Ці-ж гэта жарты забіць чалавека. А за вошта? Ды, пэўне, за нейкае дробнае непаразуменьне. А чаму-ж гэта, мае людцы, так часта здараецца ў нашым цяперашнім жыцьці? Мусіць таму, што моладзь наша ў большасьці ня мае ніякіх вышэйшых запросінаў, што толькі занята гульнёю ў карты, піцьцём гарэлкі ды разбоямі. Кніжку ці газэту рэдка дзе можна дастаць ды і то найчасьцей яны напісаны ў чужой мове, якая мала гаворыць душы нашага селяніна, а асабліва—моладзі.

Браты-беларусы з Вільні! Парупцеся аб тым, калі гэта магчыма, каб кніжкі і газэты у нашай роднай мове як найбольш ішлі на вёску, каб моладзь наша магла мець чым заняцца, каб урэшце кінула свае дрэнныя звычаі.

Было-б вельмі добра, каб хоць рэдка, але рабіліся спектаклі у беларускай мове па вёсках і мястэчках. Але мусіць да гэтага нам вельмі яшчэ далёка, калі, як кажуць, у Вільні рэдка бываюць беларускія прадстаўленьні.

*Старэйшы.*

— Пяршайская гм., Валожынскага пав. — Неяк сустрэў я чалавека з суседняе гміны і даведаўся, што каля іх людзі і газэты ў нашай мове атрымоўваюць і навет дзе-недзе ёсьць бібліятэкі з беларускімі кніжкамі. Так у людзей. А ў нас дык чамусьці ні пра газэты беларускія, ні пра кніжкі ў беларускай мове нешта ня чуваць. Неяк ніхто аб нас не клапоціцца. А можа мы і самі вінаваты, бо толькі і заняты тым, каб як небудзь сяньняшні дзень пражыць, а аб будучыні дык ніхто і ня дума.

Браты-беларусы! Давайце парупімся аб сваіх справах. Давайце ў складчыну выпішам хоць адну беларускую газэту на вёску, якія выходзяць у Вільні. А то сядзім мы бяз ніякіх праўдзівых вестак і верым розным слухам ды плёткам.

*Пяршаец.*

# У Вільні.

— Адміністрацыйная ўлада разьвязала нацыянал соцыялістычную партыю ў Вільні. У часе вобыску ў сэкрэтар'яце партыі і ў памешканьнях яе павадыроў Рэкся, Глінскага і Івашкевіча знойдзена партыйныя дакуманты, тайныя загады і т. д. На ўсю гэтыя акты наложана арэст.

— 8 г. м. паліцыя выкрыла нелегальную сходку нацыянал-радыкалаў у адным з дамоў прадмесьця Вільні Каміны.

Усіх прысутных на гэтай сходцы паліцыя затрымала і адвезла ў цэнтральны арэштны дом.

— Паводле віленскіх чутак, нацыянал-дэмакраты маюць намер абжаліць вынік выбараў у Гарадзкую Раду г. Вільні.

**Пашырайце нашу газэту.**

# З краю.

— Міністэрства справядлівасьці выдала загад, згодна з катorым гіпатэчныя аддзелы пры акружвых судох забавязаны дамагацца ад тых асоб, якія купляюць нярухомасьці, доказу, што яны грамадзяне Польскае Рэспублікі.

— Паводле інфармацыі агенцыі „Іскра" да моманту назначэньня новага міністра ўнутраных спраў, становішча гэта абняў старшыня Рады Міністраў проф. Лявон Казлоўскі.

— Міністэрства ўнутран. спраў вызначыла 100 тысяч злотых нагароды хто прычыніцца да выкрыцьця забойцы сьв. пам. міністра Б. Перацкага.

— У хуткім часе распачнецца ў **Варшаве** так званы „малочны тыдзень", прызначаны прапагандзе спажываньня малака. Аднача сна з „малочным тыднем" будзе ў сталіцы наладжана выстаўка розных малочных прадуктаў і тэхнічных устройстваў дзеля выпрабу спажывецкіх прадуктаў з малака.

— У **Вэлноўцы** каля Катовіц забаставалі безработныя, каторыя працуюць штодзень толькі некалькі гадзін для гміннага ўраду. Займаюцца яны чысткай вуліц мястэчка. Лічба гадзін паказалась ім за вялікай і таму пастанавілі яны забаставаць і вуліц больш ня чысьціць. Іншых безработных, якія згадзіліся-б заняцца гэтай чысткай, бастуючыя не дапушчаюць.

У выніку гэтай нештодзеннай забастоўкі, улады Вэлноўца зьвярнуліся да адміністрацыі ў Катовіцах з просьбаю, каб даставілі ім мэханічныя прылады для чысткі вуліц.

— У Лодзі распачалася забастоўка рабочых шоўкавых фабрык. У выніку забастоўкі спынілася праца ў 60 фабрыках, у якіх працавала болей 4000 рабочых.

# За граніцай.

× Добра асьведамлены корэспондэнт „Социалистического Вестника" паведамляе з **Масквы,** што забурэньні ў СССР ня сьціхаюць. У Сталінградзе была забастоўка з прычыны несваячаснае выплаты пэнсіі і пагоршаньня стравы ў работніцкіх сталоўках. Хлебазагатоўкі ў мінулым годзе рабіліся настолькі энэргічна, што на Сярэдняй Волзе і ў **Беларусі,** напрыклад, цяпер у шмат якіх вёсках не хапае хлеба нават у калхозьнікаў.. У апошнім часе у г. зв. „Заходняй області" і ў Беларусі ідзе ўзмоцненая ліквідацыя хутароў. Ліквідуюцца ня толькі старыя сталыпінскія хутары, але і новыя, насаджаныя яшчэ гэтак нядаўна народным камісарам земляробства БССР Прышчэпавым. Жыхары Далёкага Усходу знаходзяцца ўжо фактычна ў стане ваеннага палажэньня.

× Увосень у **Ангельскі** парлямэнт мае паступіць праект закону аб кантролі дзяржавы над грамадзкімі сабраньнямі.

× **Баўгарскі** міністар унутраных справаў зьвярнуўся да Софійскага саюзу адвакатаў з просьбаю падаць яму прозьвішчы добрых юрыстаў, якія згадзіліся-б заняць пасады войтаў у гмінах. Каля 40 баўгарскіх адвакатаў далі на гэта сваю згоду.

× У **Аўстрыі** рада міністраў прыняла закон аб узнаўленьні кары сьмерці за дзяржаўную здраду, кваліфікаванае забойства, забойства з мэтаю рабунку, абдуманы падпал.

× У **Гішпаніі** скончылася забастоўка мэталістаў, якая цягнулася паўгода.

× Дваццаць былых кіраўнікоў **Аўстрыйскае** соцыяль дэмакратычнае партыі, якія былі пад арыштам у лягеры Вэлерсдорф, выпушчаны на волю.

× Прэзыдэнт **Паўночна**

**Амэрыканскіх Злучаных Штатаў** падпісаў дэкрэт аб серабры. Адначасна апублікавана распараджэньне аб сьцягваньні 50 процантаў з даходаў спэкуляцыйнага характару.

× **Нямецкія** марскія ўлады ўрачыста сустрачалі дывізіён ангельскіх мінаносцаў, прыбыўшых у нямецкія воды. Гэта першы візыт ангельскае эскадры ў Нямеччыне пасьля сусьветнае вайны.

× Корэспондэнт расейскае газэты „Наше Время“ паведамляе з Стоўпцаў, што ў сувязі з арыштам былога пасла ў польскі Сойм Паўла Карузы, атрыманы весткі ад прыехаўшых з **БССР** асобаў, што менскае ГПУ нядаўна зьліквідавала шырокую нэцыяналістычную арганізацыю, мэтаю якое было скінуць бальшавіцкую ўладу і абвясьціць незалежную Беларускую Рэспубліку. Каруза быў адным з кіраўнікоў змовы. Да рэвалюцыйнае партыі, рыхтаваўшай пераварот, належыла шмат камуністаў, уцёкшых з Польшчы ў **БССР** і расчарованых у „дасягненьнях“ камуністычнага раю. У Менску і іншых местах **Беларусі** зроблены новыя арышты.

## Польска-савецкі гандаль

Гандлёвыя адносіны між Польшчай і СССР за апошнія дні ажывіліся. Адбываюцца перагаворы у справе новых польскіх даставах для СССР. Саветы, між іншым, маюць намер закупіць у Польшчы транспорт машын для сваіх мэталюргічных фабрыкаў.

## Югаславія ня прызнала СССР.

У сувязі з чуткамі, што Югаславія мае прызнаць СССР, з Белграда паведамляюць з самых пэўных крыніц, што чуткі гэтыя беспадстаўныя.

Прызнаньне СССР з боку іншых дзяржаваў Малой Антанты зусім ня дэцыдуе аб прызнаньні іх Югаславіяй, бо-ж яшчэ на студнёвых абрадах была загварантавана кожнаму паасобнаму сябру Малой Антанты поўная самастойнасьць палітыкі.

## Вальдэмарас прысуджаны на 12 год катаргі.

Паводле вестак з Коўны, Вальдэмарас за спробу дзяржаўнага перавароту, засуджаны палявым судом на 12 год катаргі.

## Пралетарскія пісьменьнікі, ахвотней пьюць, чымсь пішуць, гаворыць М. Горкі.

Як падае расейская газэта „Сегодня“ з дня 17 чэрвеня г.г.. Польскаму Тэлеграфнаму Агенству даносяць з Масквы, што ў савецкіх газэтах паявіўся артыкул Максіма Горкага, у якім ён востра выступае процiў новага пакаленьня савецкіх пісьменьнікаў. Горкі закідае ім дэмаралізацыю, пьянства, нездаровую атмосфэру, інтрыгі і г. д. Па думцы Горкага сярод маладых пісьменьнікаў заўважваецца хуліганства і ў сувязі з гэтым робіць вывад, што ад хуліганства да фашызму адзін шаг. Перадусім нападаець на многіх сяброў аб'яднаньня пралетарскіх пісьменьнікаў і пісьменьнікаў комсамольцаў. Яны, кажа Горкі, куды ахвотней пьюць, чымсь пішуць.

## Эгзамены для гмінных сэкрэтароў.

Згодна з апошнім загадам Міністэрства Унутраных Спраў, усе асобы, якія хочуць у прышласьці заняць пасады гмінных сэкрэтароў, павінны злажыць перад гэтым спэцыяльныя эгзамены з 15 прадметаў. Эгзаменаваць будуць асобныя камунальныя камісіі. Ад складаючых эгзамены перад усім будзе вымагацца веда Польскае Конституцыі, цывільнага і карнага права, палітычнай эканоміі і г. д.

## Школьныя справы.

Гэтымі днямі будуць абвешчаны новыя загады ўладамі школьнага вокругу на 1934-35 вучэбны год. Асабліва зьвернена будзе ўвага на тое, каб не пераладоўваць вучняў пачаткавых школ хатнімі працамі. Згодна з новымі вымогамі, прыгатаўленьне лекцыяў, заданых да хаты, не павінна заняць вучню болей часу, чым паўтары гадзіны.

Паведамляюць, што Міністэрствам Асьветы будзе праведзена яшчэ адна вельмі важная школьная рэформа, дзякуючы якой, ня будуць ставіцца ацэны ў малодшых клясах.

## Расейскі нацыяналізм у ССРР.

Філіпп Амігэ прысьвядчае ў консэрватыўным „Ордр“ артыкул „новаму расейскаму нацыяналізьму“. Паводле спасьцярогаў аўтара артыкулу, бальшавікі, паступова адыходзячы ад інтэгральнага марксызму, вяртаюцца да вытакаў традыцыйнай расейскай палітыкі. Чырвоная партыя з кожным днём адыходзіць усё далей і далей ад „міравога пралетар'яту“ і прасяквае задачай абароны нацыянальнай тэрыторыі. Вось гэта моладзь зразумела вельмі добра, і сяньня піхаець яна кіраўнічыя кругі да падняцьця аружжа процi вонкавага ворага. Міхал Тугачэўскі, арганізатар чырвонай арміі, прадбачыў гэты ўсход расейска-савецкага нацыяналізму, і таму не дарма казаў ён сваім афіцэрам: „Православный ли крест, или красное знамя — не в этом дѣло. Всегда и вездѣ мы служим Россіи“

## *Ад Рэдакцыі.*

***З тае прычыны, што большасьць супрацоўнікаў нашае газэты ў апошнім часе становіць беларуская студэнская моладзь, якая з канцом школьнага году выяжджае з Вільні, у працягу летніх месяцаў наша газэта будзе выходзіць 2 разы у месяц.***

# Усячына.

## Граніца жыцьця чалавека 140 гадоў!

Прафэсар Воронов, сьледзячы міжнародную доктарскую статыстыку, зьвярнуў увагу на жыхароў Пэрсіі, сярод якіх шмат хто дасягнуў 140 гадоў.

— Да гэтага часу—кажа вучоны—думаў я, што граніца людзкога веку выносіць 120 гадоў. Цяпер хачу дасьледваць тыя вынятковыя выпадкі, калі век чалавека перайшоў гэтую граніцу. Мая мэтода прышчэпліваньня—заместа днэй—трох залозаў дазваляе мне рабіць апэрацыі на 90-летніх асобах з добрымі вынікамі. Цяпер маю намер правесьці досьледы адмаладжваньня людзей, якія дажылі болей чымсь да 90 гадоў. Першым этапам маёй працы, будуць досьледы над 140-летнімі Пэрсіянамі.

Як бачым, поступ веды перасоўвае што раз далей і вышэй граніцу жыцьця чалавека.

### На Марс і на Луну.

У Англіі пастаў цэлы рад ракетных клюбаў. Клюбы гэтыя гуртуюць не ахвотнікаў тэнісовай ракеты, але энтузіястаў новага спосабу камунікацыі... міжплянэтарнай, пры помачы выбуховай ракеты. Такая ракета, выстраленая з зямлі, дзякую выбуховай энэргіі спэцыяльных набояў пораху або сьцісьненага газу, мае праляцець атмосфэру.

Гэтыя клюбы вельмі энэргічна набіраюць сяброў і стараюцца здабыць матэр'яльныя сродкі, каб запачаткаваць м'жплянэтарную камунікацыю.

Усе гэтыя хвастлівыя праэкты,—далучэньня Марса да ангельскай імпэрыі,—надоўга застануцца, як кажа старшыня брытанскага таварыства міжплянэтарных досьледаў, у сфэры, што праўда няшкодных, але і нерэальных выабражэньняў.

## Пераліваньне крыві нябошчыка.

На маскоўскай конфэрэнцыі маладых вучоных работнікаў мэдыцыны, супрацоўніца інстытуту ім. Скліфассоўскага — д-р. Скудзіна зрабіла ў хірургічнай сэкцыі вельмі цікавы даклад аб пераліваньні крыві нябошчыка.

Кроў жыве пасьля сьмерці чалавека даволі значны час. Пасьля, як пройдзе 6—7 гадзін ад хвіліны сьмерці, бяруць кроў і пералiваюць яе жывым. Кроў узятая ў жывога чалавека, ськівае і больш не разыходзіцца. Кроў, узятая ў нябошчыка, ськівае і зноў распушчаецца.

Гэтае зьявішча, над якім даўгі час ламалі галаву вучоныя, разгадана колектывам работнікаў імя Скліфассоўскага пры ўчасьці д-ра Скудзінай.

Як падае савецкая прэса, прафэсары Герцэн, Левіт і Юдзін у спрэчцы над гэтай справай падкрэсьлілі, што праца Скудзінай мае міравое значэньне.

*Альм.*

# Сцэна.

(гл. № 14 „Р. К.“).

Асноўных тэатральных фарбаў павінна быць сем: белая, чырвоная, чорная, цёмна-чырвоная, сьветла-сіняя, карычнявая і жоўтая. Артыст можа сам зрабіць аснаўныя тоны фабраў у наступны спосаб: разстапліваецца кароўі тук на агні, выбіраецца з яго ўсе застаўшыяся нерастопленыя кавалкі, зьмешваецца гэтую масу з белым воскам, дабаўляючы да яе патрэбную грымёру фарбу. Ужываюцца спэцыяльныя каляровыя алавікі, коляр якіх адпавядае коляру цела і яго адценкаў. Грыміруючыся алавіком, трэба імкнуцца не рабіць на твары штрыхоў.

Да фарбаў грыму належаць румяна і бялілы.

Фарбамі для грыму трэба лічыць яшчэ тыя замазкі і прымазкі, каторыя ўжываюцца для замазваньня часткаў броваў, калі яны маюць неправідловую форму і для злучэньня парыка са шкурай лобу. Замазка для броваў прадстаўляе сабой сьветла ружовую фарбу, а „прымазка для парыка“ —фарбаў аснаўнога тону твару.

У тэхніцы грыму вялікае значэньне мае пудра.

Раней чым пачаць грыміравацца, неабходна фарбай даць патрэны аснаўны тон. Агульны тон твару будзе або худоба, або поўната. Для паказаньня худобы трэба пакрыць сьветлымі цялеснымі тонамі выпукласьць твару, як скулы, падбародак і г. д., а ценявымі вочныя кадзі, шчокі і віскі. Каб зрабіць твар грубым, некаторыя радзяць апісаць два канцэнтрычных колы. Адно з іх вялікае—павінна датыкацца куткоў роту, краю ніжняй чэлюсьці, скулавай выпукласьці, другое меншае павіна быць апісана пасярэдзіне шчакі. Першае кола цёмна-чырвонага, а другое бледнага колера.

Да агульнага тону твару належыць аднесьці і выраз вачэй. Вочы зьяўляюцца паказальнікам паасобных настрояў. Вось чаму выражэньне вачэй—адна з самых галоўных заданьняў кожнаго грыміруючагося артысты. Каб даць вачом жывасьць, зрабіць узрок адкрытым падмалёўваюць веіны цёмнай фарбай. Вочы, абрысаваныя доўгімі і цемнымі веінамі — здаюцца вялікімі. Чорнай фарбы для гэтага ўжываць ня трэба, а два тоны сіняй. Малюнак хвараблівага стану запаўняюць надвочныя пухіркі: яны даюць воку ўтомлены выгляд; тон пухіркоў адрозьніваецца сіняватым адценкам. У асоб з хворым узрокам, — падсляпаватых — вейн часта ня бывае. У грыме іх маскіруюць тонам цела, а краі век пакрываюць чырвонай фарбай. Пры шырока адчыненых вачох, выражаючых страх, належыць зрабіць брові больш густымі і над расніцамі правесьці чырвона — бурыя палоскі.

Носу можна прыдаць таксама розную форму. Каб атрымаць нос п'яніцы трэба ноздры падбяліць, усю рэшту паверхні носа пакрыць чырвонаватай фарбай. Каб зрабіць тлусты падбародак, трэба ніжнюю частку яго афарбаваць у сьветлы колер, аддзяліўшы яе ад рэшты падбародка баразной таксама колеру цела.

Пры прыклейваньні барады, для выбару яе коляру трэба лічыцца з колерам валос на галаве.

Кожны вус трэба прымацоўваць паасобна, бо зьвязаньне іх робіць непрыемнае ўражаньне. Колер вусоў павінен быць сьвятлейшы ад колеру барады.

Пры выбары парыка трэба мець на ўвазе агульныя вонкавыя рысы дзеючай асобы.

Вялізарнае значэньне ў тэхніцы грыму маець грыміроўка зморшчак, асабліва ў старыкоў. Яны зьяўляюцца складкамі скуры. Зморшчкі пакрываюцца шаравата-чырвоным колерам.

Тут мы паказалі шэраг выпадкаў, як можна дасягнуць зьмены формы часткаў твары. Але ўсе гэтыя выпадкі далёка ня зьмяшчаюць усякіх розных тэхнічных прыёмаў ськіваных да стварэньня сродкамі грыму сцэнічных ілюзіяў.

Каб размаляваць твар трэба прыдаць сваяму твару агульны тон у залежнасьці ад характару ролі. Артыст павінен памятаць, што для таго, каб звузіць частку твару, ён павінен накладаць светлыя тоны, а для таго каб яе расшырыць, яму трэба ўжываць цёмныя тоны.

Грым змываецца з твару наступным спосабам: спачатку загрыміраваныя часткі цела пакрываюць якім небудзь тлушчам напр. вазэлінай, затым выціраюць гэты тлуш ручнікам. Пасьля таго, як грым зьняты з твару, трэба пакрыць твар пудрай, каторую праз нейкі час здымаюць, а затым мыюць твар мылам, цёплай вадой.

Мы бачым, што праз усе аддзелы сцэнічнай т э х н і к і праходзіць аснаўны варунак палягаючы ў тым, што дэклямацыя, міміка, як і грым вымагаюць драбязговай знаёмасьці з асобай, каторую артыст прадстаўляе. Тэхніка сцэны ёсьць неабходнае аружжа ў руках сцэнічнага мастака, каб сваю творчую думку паказаць у рэальных формах.

К А Н Е Ц.

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.